# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка л[illegible]іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «КалаСкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 11 (495) — Нядзеля, 13 сакавіка 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# Змаганьне за адсталыя краіны трох кантынэнтаў

Да найважнейшых палітычных падзеяў апошняга часу, і то падзеяў глябальнага маштабу, трэба аднесьці нядаўныя палітычныя падарожжы Хрушчова ў краіны Паўдзённа-Ўсходняй Азіі, прэзыдэнта Айзэнгаўэра ў Лацінскую Амэрыку і папярэдзіўшае іх падарожжа брытанскага прэм'ера Макміляна ў Паўдзённую Афрыку. Сюды-ж прыдзецца аднесьці яшчэ неадбытае, але ўжо заплянаванае падарожжа Хрушчова ў афрыканскія краіны.

Беспасярэдняй мэтай усіх гэтых падарожжаў, як згодна камэнтуе заходняя прэса, ёсьць награмаджэньне палітычнага капіталу кажным падарожнікам для канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні, якая мае адбыцца ўжо ў травені месяцы. Але паза гэтымі, чыста каньюнктуральнымі, хаваюцца мэты сталага й прынцыповага характару — змаганьне за ўплывы ў вадсталых краінах Азіі, Афрыкі й Паўдзённай Амэрыкі.

Хрушчоў патраціў цэлыя тры тыдні часу (ад 11 лютага да 5 сакавіка), аб'яжджаючы важнейшыя краіны Паўдзённа-Ўсходняй Азіі (Індыю, Бурму, Інданэзію й Афганістан), галоўным чынам дзеля таго, каб адрабіць у сваю карысьць усё тое, што дасягнуў там для справы вольнага сьвету перад двума месяцамі падчас свайго трыумфальнага падарожжа прэзыдэнт Айзэнгаўэр, ды каб узмоцніць у краінах Азіі камуністычныя ўплывы, моцна аслабленыя ў выніку агрэсіі камуністычнага Кітаю ў Тыбэце й на паўночным паграніччы Індыі.

Прэзыдэнт Айзэнгаўэр у працягу двухтыднёвага падарожжа (ад 24 лютага да 3 сакавіка) адведаў Бразылію, Аргентыну, Чылі й Уругвай. Мэтаю гэтага падарожжа было ўнармаваньне дачыненьняў з Паўдзённай Амэрыкай і замацаваньне ўзаемнага супрацоўніцтва. Праўда, у Паўдзённай Амэрыцы, за выняткам Кубы, камуністычная небясьпека беспасярэдна не пагражае, а бальшыня паўдзённаамэрыканскіх краінаў ня ўтрымлівае навет афіцыяльных дыпляматычных дачыненьняў з Савецкім Саюзам. Тым ня меней, аднак, у краінах Паўдзённае Амэрыкі пачало апошнім часам узьнікаць войстрае незадаваленьне, што Задзіночаныя Штаты, накіроўваючы цяпер галоўную ўвагу на краіны Азіі й навет Афрыкі ды прызнаючы ім вялікую эканамічную помач, выразна занядбоўваюць Паўдзённую Амэрыку. Цяжкое гаспадарскае палажэньне змушае некаторыя паўдзённаамэрыканскія краіны шукаюць бліжэйшых кантактаў з Савецкім Саюзам і ягонымі сатэлітамі, што ў сваю чаргу пагражае Задзіночаным Штатам.

У палітычных колах Амэрыкі сур'ёзна пачынаюць лічыцца з тым, што згодны дагэтуль паўдзённаамэрыканскі блёк, які заўсёды падтрымліваў Задзіночаныя Штаты ў Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, хутка можа перайсьці на нэўтральныя пазыцыі падобна Індыі, якой Амэрыка дае большую эканамічную помач, чымся краінам Паўдзённае Амэрыкі, узятым разам. У рапарце спэцыяльнай камісіі, прыгатаваным напярэдадні выезду Айзэнгаўэра для сэнацкай камісіі замежных справаў аб сытуацыі ў краінах Паўдзённае Амэрыкі, было сказана: «Задзіночаныя Штаты мусяць зьмяніць свае дачыненьні да гэтых краінаў і спэцыяльна ў галіне гаспадарскай апрацаваць плян помачы, які-б абыймаў некалькі год наперад».

Кажны зь вялікіх падарожнікаў пераконваў аб бескарысьніцкіх прыязных дачыненьнях, кажны запэўніваў аб мірнай палітыцы сваей дзяржавы, кажны абяцаў матар'яльную помач бязь ніякіх палітычных канцэсіяў узамен за яе. Але кіраўнікі заходніх дзяржаваў рабілі гэта шчыра, выказвалі свае запраўдныя перакананьні, ня шукалі прапагандовае шуміхі.

Макмілян закончыў сваё афрыканскае падарожжа вызначаньнем прынцыпу роўнасьці расаў і асуджэньнем расізму. Айзэнгаўэр у новай бразыльскай сталіцы — горадзе Бразылія праклямаваў «права свабоднага выбару», якое павінна стацца галоўным прынцыпам амэрыканскае палітыкі. Але адначасна амэрыканскі прэзыдэнт перасьцярог, што Задзіночаныя Штаты «будуць лічыць інтэрвэнцыяй у нутраныя справы Амэрыкі, калі-б якая-небудзь чужая дзяржава — шляхам ваеннай агрэсіі ці дэструкцыйнай акцыі — адабрала свабоду выбару народу якой-небудзь з братніх рэспублік».

Ня ў прыклад кіраўніком заходніх дзяржаваў, Хрушчоў у азіяцкіх краінах гаварыў адну няпраўду, сеіў нянавісьць і пераходзіў усякія межы таннай дэмагогіі. У сваей першай прамове, якую ён меў перад абедзьвюма палатамі індыйскага парляманту, Хрушчоў заявіў: «Некаторыя высока разьвітыя краіны дасягнулі высокае гаспадарскае ўзроўні дзякуючы прыгнечваньню імі азіяцкіх і паўдзённаамэрыканскіх краінаў. Было-б справядлівым, калі-б гэтыя заходнія дзяржавы зьвярнулі сваім ранейшым калёніям хоць частку з таго, што яны перад гэтым заграбілі».

Хрушчоў галоўным чынам праліваў кракадзілавы сьлёзы над азіяцкімі й афрыканскімі краінамі, якія яшчэ ўчора былі «прыгнечанымі калёніямі». Можна лёгка прадбачыць, — выводзіў Хрушчоў — што гэтыя народы аднаго дня будуць належыць да прагрэсіўных краінаў сьвету. Сымпатыі Савецкага Саюзу будуць заўсёды на боку тых краінаў, якія, як прыкладам Куба, актыўна абараняюць сваю нацыянальную й гаспадарскую незалежнасьць. Савецкі Саюз, — запэўніваў Хрушчоў — заўсёды гатоў несьці бескарысьлівую помач тым краінам, якія змагаюцца супраць гаспадарскай адсталасьці.

У прамове, сказанай у Калькуце, Хрушчоў абвінаваціў заходнія дзяржавы ў тым, што яны, даючы гаспадарскую помач, надужываюць яе дзеля паглыбленьня падзелу сьвету на два варожыя лягеры й выкарыстоўваюць гэтую помач ў якасьці аружжа «новай формы каляніялізму». Затое Савецкі Саюз дае помач па тое, каб дадзеныя краіны маглі сабе забясьпечыць незалежнасьць.

Амаль у кажным сваім выступленьні Хрушчоў заяўляў, што зь мілітарнага гледзішча Савецкі Саюз сяньня зьяўляецца найсільнейшай дзяржавай у сьвеце. Ня гледзячы на гэта, Савецкі Саюз падаў ініцыятыву татальнага разаружэньня. Робіць ён гэта не із страху перад вайной, але толькі й вылучна дзеля сваіх мірных намераў.

Уся гэтая хрушчоўская дэмагогія настолькі белымі ніткамі была шытая, што не патрабуе ніякіх асаблівых аргумэнтаў дзеля ейнага расшыфраваньня. Бо сьмешным у сваім бяспрыкладным цынізьме выглядае Хрушчоў у ролі «анге-ла міру» або праціўніка ўсякага каляніялізму пасьля таго, калі заходнія дзяржавы самі дабравольна адмовіліся ад сваіх былых калёніяў, а Савецкі Саюз зьяўляецца сяньня адзінай у сьвеце дзяржавай, якая практыкуе найцяжэйшую форму каляніялізму больш як на аднэй шостай часьці зямнае кулі.

Ня менш аблудным зьяўляецца й хвастаньне Хрушчова аб «бескарыснасьці» савецкай эканамічнай помачы адсталым і эканамічна недаразьвітым краінам. Праўда, кажнай паўдзённаазіяцкай краіне, якую наведаў, заахвяроўваў Хрушчоў і эканамічную дапамогу.

Савецкія крэдыты для Індыі выносілі да 1959 году 300 мільёнаў даляраў супраць двух мільярдаў даляраў, якія былі за гэты час прызнаныя Індыі Задзіночанымі Штатамі Амэрыкі. У часе цяперашняй візыты Хрушчоў забавязаўся прызнаць Індыі новых 300 мільёнаў даляраў на пэрыяд трэйцяй індыйскай пяцігодкі, якая распачынаецца ў бягучым годзе.

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

# Аб тых, што хаваюць бальшавіцкія злачынствы

Пытаньне русыфікацыі часта закранаецца на бачынах «Бацькаўшчыны». На нашую думку, гэтае пытаньне павінна і ў будучыні стала аставацца ў цэнтры нашай увагі, ці, правільней кажучы, увага да яго з нашага боку павінна ўсьцяж павялічацца.

Як паказвае жыцьцёвая практыка, справа русыфікацыі датычыць найбольш жыцьцёвых інтарэсаў нерасейскіх народаў СССР, у тым ліку, і ў першую чаргу, нас Беларусаў.

Калі дасюль магчыма нехта сумляваўся ў патрэбе шырокага і ўсебаковага абмеркаваньня й раскрыцьця гэтай праблемы, калі дасюль нехта магчыма крытычна ставіўся да сыгналаў у нашай прэсе і ў прыватнасьці ў «Бацькаўшчыне» аб рэальнасьці гэтай пагрозы, пасьля апублікаваньня ў савецкай прэсе вынікаў апошняга перапісу насельніцтва СССР, асабліва-ж ягонага нацыянальнага складу, ён павінен перагледзець свае пагляды.

Факт русыфікацыі савецкая ўлада сама пацьвердзіла і прадэманстравала цыфрамі. Так, цыфрамі, канкрэтнымі цыфрамі, недакладнымі, сьведама хвальшаванымі ў залежнасьці ад патрэбы ў той ці іншы бок, але цыфрамі, — сяродкам вымярэньня, які яна звычайна абмінае там, дзе справа датычыць ейных няўдачаў або злачынстваў, якія зь ейнага пункту гледжаньня не павінны падлягаць публікацыям. Тут-жа справу маем із злачынствам капітальным, у дачыненьні да цэлых народаў, злачынствам, мяжуючым з гэнацыдам. Расьце толькі адзін народ — расейскі, іншыя — або застылі на мёртвым пункце, або, як гэта бачым на прыкладзе Беларусаў, памяншаюцца. І савецкая ўлада ня лічыць патрэбным сароміцца гэтага факту або хаваць яго.

Аб чым гэта сьветчыць? Ці не аб тым, што такія вынікі адпавядаюць палітыцы партыі ў дэмаграфічным і нацыянальным пытаньні і што яны былі дасягнутыя, дзякуючы пасьлядоўнаму праводжаньню гэтай палітыкі ў жыцьцё? Самі бальшавікі справу паставілі так ясна, што адказ тут можа быць толькі адзін: Так! Гэта вынік пасьлядоўнай дзяржаўнай палітыкі максымальнай русыфікацыі ўсіх нерасейскіх народаў, прадуманай ува ўсіх дэталях і кансэквэнтна праводжанай пад ціскам усяе таталітарнае сыстэмы. Ня будзем тут спыняцца над дзейнасьцяй гэтай складанай русыфікатарскай машыны. Хто гэтым пытаньнем цікавіцца і падыходзіць да яго сумленна — той ведае.

Нажаль, ня ўсе называюць гэтае канкрэтнае зьявішча ягоным канкрэтным імём. Калі гэта робяць людзі непаінфармаваныя ў справах — гэта можна прабачыць, з тэй, зразумела, засьцярогай, што калі нехта нечага добра ня ведае або не разумее, лепш тады зусім не забіраць голасу. Але непрабачальна, калі гэта робяць людзі ці інстытуцыі, спэцыяльна пакліканыя вывучаць і растлумачваць іншым афіцыйную і замаскаваную сутнасьць падсавецкай рэчаіснасьці. Гэтыя апошнія русыфікацыю часта ахватней бачылі-б пад назовам «дэнацыяналізацыя», а часта ўсякімі спосабамі абмінаюць гэтае пытаньне наагул, як быццам яно зусім ня існуе.

Але што значыць «дэнацыяналізацыя» і ці можна гаварыць аб нейкай «дэнацыяналізацыі» ў Савецкім Саюзе?

Пад «дэнацыяналізацыяй» аўтаматычна разумеецца пазбаўленьне чалавека ці народу акрэсьленых нацыянальных азнакаў,ператварэньне яго ў нешта накшталт гэтак званага «бязроднага касмапаліта». Тэарэтычна так меў выглядаць гэтак званы «савецкі чалавек». Але ці гэта мы маем на практыцы ў Савецкім Саюзе? Нічога падобнага! Апошні перапіс насельніцтва СССР ня мае рубрыкі «савецкія людзі», «савецкі чалавек», куды-б адносілі ўсіх «здэнацыяналізаваных», але ёсьць Расейцы, Украінцы, Беларусы і гэтак далей. Усе гэтак званыя (з прабачэньня) «здэнацыяналізаваныя» апынуліся ў рубрыцы Расейцаў. А такіх мільёны і мільёны ... І напэўна не знайшлося аніводнага «здэнацыяналізаванага» Расейца, які-б трапіў у лік, скажам Татараў ці Жыдоў. Дык дзе-ж лёгіка гаварыць аб «дэнацыяналізацыі», калі маем перад сабой яўную русыфікацыю, пацьверджаную афіцыйнай, хай сабе і савецкай, статыстыкай.

Чым-жа можна вытлумачыць гэтыя парадоксы? Дэзынфармацыяй? Бяз гэтага тут, бязумоўна, не абыходзіцца. На Захадзе ёсьць яшчэ шмат улезшых у давер «экспэртаў» па справах Савецкага Саюзу, якія сабе не ўяўляюць, а найчасьцей сьведама ўдаюць, што не ўяўляюць, што «великий русский» народ можа павялічацца нясумленнымі спосабамі, такімі, напрыклад, як дзяржаўнай русыфікатарскай палітыкай ...

У такіх выпадках можна й трэба гаварыць аб сьведамай апрабацыі аднэй з галоўных мэтаў бальшавіцкай нутранай палітыкі, якой зьяўляецца русыфікацыя нерасейскіх народаў СССР. А гэта ніяк ня месьціцца ў рамках змаганьня з бальшавізмам, савецкім імпэрыялізмам і камунізмам наагул, змаганьня, якое Захад у сілу палітычных абставінаў у сучасным сьвеце змушаны весьці цяпер і будзе змушаны рабіць гэта і ў будучыні, калі ня хоча пасьці ахвярай свайго праціўніка. Ня ўлічваць, ня выкрываць і ня супрацьдзеіць русыфікацыі, як фактару, якім савецкая сыстэма карыстаецца для ўмацаваньня свае імпэрыі —гэта нясьведамы або й сьведамы падрыў справы антыкамуністычнага змаганьня. А розныя «экспэрты», якія падказваюць і фарсуюць такі падыход да справы, спрычыняюць гэтаму змаганьню, мякка кажучы, «мядзьведжую ўслугу».

Адкрытым пакідаем пытаньне, дзе ляжаць пружыны гэтай дэзынфармацыі.

**М. Б.**

# Аб аднэй дыскусіі ў „Полымі“

У студзенскім нумары менскага літаратурнага часапісу «Полымя» пачалася дыскусію аб літаратурнай творчасьці Якуба Коласа. У часапісе зьмешчана рэцэнзія крытыка Фёдара Куляшова на кнігу Фіглоўскай «Творчасьць Якуба Коласа». Рэдакцыя часапісу «Полымя» заяўляе, што яна не згаджаецца зь вельмі дадатнай ацэнай Куляшова кнігі Фіглоўскай і таму, побач з рэцэнзіяй Куляшова, зьмяшчае артыкул Рыгора Шкрабы, які выказвае пункт гледжаньня рэдакцыі на кнігу Фіглоўскай.

Прачытаўшы абодва артыкулы, нельга ня прызнаць рацыі рэдакцыі часапісу «Полымя» і асабіста Рыгору Шкрабе, ў тым, што кніга Фіглоўскай аб творчасьці Якуба Коласа далёка ад праўдзівай характарыстыкі творчасьці паэты і ад навуковага, аб'ектыўнага аналізу. Аднак Рыгор Шкраба, а зь ім і рэдакцыя часапісу, абмажаваліся крытыкай неабгрунтаванасьці выказваньняў Фіглоўскай і Куляшова і заўвагамі аб некаторых супярэчнасьцях ў іхных выказваньнях, а свайго пагляду на творчасьць Якуба Коласа так і ня выказалі.

Нашу ўвагу зьвярнуў на сябе падыход усіх прыгаданых аўтараў да разгляду мэтаду мастацкай алегорыі ў творчасьці Якуба Коласа, асабліва ў цудоўнай Коласавай паэмы «Сымон Музыка». Рыгор Шкраба «злавіў» Фіглоўскую на тым, што яна заблыталася, гаворачы аб алегорыі наагул і алегорыі ў паэме «Сымон Музыка». З аднаго боку, Фіглоўская акрэсьлівае алегорыю, як «спосаб зашыфраваць свае думкі ад цэнзуры», а з другога — яна гаворыць аб алегорыі і ў паэме «Сымом Музыка», апошняя рэдакцыя якой, як ведама і як гэта падчырквае й Шкраба, была зробленая ўжо ў савецкі пэрыяд.

У артыкуле Рыгора Шкрабы мы чытаем:

«Нельга не зьвярнуць увагі на спрошчанае і абмежаванае разуменьне аўтарам манаграфіі мастацкай алегорыі. На думку Л. Фіглоўскай, яна найбольш характэрная для твораў Я. Коласа дарэвалюцыйнага часу. Праўда, пры разглядзе «Казак жыцьця» яна ня выказвае гэту думку, хоць тут, здавалася, было-б вельмі дарэчы пагаварыць аб прыродзе алегорыі. Зразумела, чаму яна гэтага ня робіць: у апошнія гады свайго жыцьця Я. Колас прадоўжыў цыкль «Казак жыцьця», і, такім чынам, погляд на алегорыю, як спосаб зашыфраваць свае думкі ад цэнзуры, сам сабою, аўтаматычна адпадае. Што якраз такога погляду на алегорыю прытрымліваецца Л. Фіглоўская, сьветчыць яе разгляд паэмы «Сымон Музыка»: «У сваёй аснове паэма «Сымон Музыка», — піша яна, — склалася **ў дарэвалюцыйныя гады,** калі алегорыя была вельмі зручна як вопратка ідэі, як умяшчальня яе.»

Далей Рыгор Шкраба ставіць такое пытаньне: «апошнюю рэдакцыю «Сымона Музыкі» Я. Колас напісаў у савецкі час, дык чаму-ж ён не адмовіўся ад алегорыі, калі яна была, як сьцьвярджае Л. Фіглоўская, неабходным сяродкам **пэўнага пэрыяду**», а не мастацкім прыёмам наагул?»

Прачытаўшы гэтыя выказваньні, ніхто, хіба, ня скажа, што Шкраба паразумнеў, што яму цяпер стаў ясным пагляд савецкіх беларускіх літаратурных крытыкаў на прыроду й значэньне алегорыі ў творчасьці Якуба Коласа і асабліва ў паэме «Сымон Музыка». Адчуваецца, што ўдзельнікі спрэчкі хочуць, быццам, нешта сказаць, але й далей справа канчаецца тым, што, пакрытыкаваўшы іншых за «ненавуковасьць», «недакладнасьць», і апошні крытык крытыкаў хаваецца ў цяні.. Гэтак, напрыклад, Рыгор Шкраба, пакпіўшы зь Фіглоўскай за тое, што яна заблыталася, не сказаўшы нічога канкрэтнага ад сябе, схаваўся за прыпушчэньне, што алегорыя ў творах Я. Коласа — гэта, быццам, «мастацкі прыём наагул», які, нібыта, у выпадку «Сымона Музыкі» ня мае канкрэтнага значэньня.

Таму, ня будзе, хіба, лішнім з гэтай нагоды падказаць дыскутантам з «Полымя» тыя крыніцы, зь якіх яны маглі-б скарыстаць, калі яны запраўды маюць намер усебакова, праўдзіва й навукова падыйсьці да закранутай імі тэмы.

На эміграцыі на гэтую тэму выдана нямала працаў, дзе гэтае пытаньне разглядаецца без патрэбы абавязковых спасылак на «культ Горкага», як гэта робіцца ў БССР. У мюнхэнскім беларускім выдавецтве «Бацькаўшчына» ў 1955 годзе асобнай кніжкай выдадзена паэма «Сымом Музыка» з уводнымі артыкуламі Р. Склюта і Адама Бабарэкі, у якіх расшыфраваньню алегарычнага зьместу паэмы аддадзена шмат увагі.

У мюнхэнскім Інстытуце Вывучэньня СССР выдадзеная манаграфія Антона Адамовіча «Якуб Колас у супраціве саветызацыі» з грунтоўным аналізам гэтага-ж пытаньня, а таксама іншыя працы. Такім чынам, напрыклад, галоўны рэдактар «Полымя» Максім Танк, заміж таго, каб падглядаць у Ўсходнім Бэрліне, што ўкрала ў эміграцыі тамашняя аген-

**(Заканчэньне на 4-ай бач.)**

# Сьлядамі „Дабрасельцаў“ Кулакоўскага

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

нулага году з 123,6 млн. рублёў, атрыманых з банку для авансаваньня калгасьнікаў, выкарысталі не па прызначэньню 85,8 млн. рублёў або 69%. Таксама, з мэтай паказаць «вялікія посьпехі й дасягненьні» калгасьнікаў, у многіх калгасах зьніжаюцца нормы выпрацоўкі й павышаюцца расцэнкі. З гэтага, ведама, выйграюць калгасьнікі, але траціць дзяржава. Што-ж, кажны старшыня калгасу імкнецца выканаць свой гадавы плян выпрацоўкі. Патрэбныя лікі й паказчыкі «выдатнай працы», а вынікі . . .

Таму К. Мазураў і сьцьвярджае, што ў рэспубліцы «нізкая культура жывёлагадоўлі . . . усё яшчэ вялікі падзеж жывёлы, асабліва маладняку. У Магілеўскай вобласьці ў мінулым годзе загінула кажнае сёмае цялё і шостае парасё». Тое самае назіраецца ў вытворчасьці прадуктаў земляробства: «ураджайнасьць сельскагаспадарчых культур, — гаворыць Мазураў, — паранейшаму вельмі нізкая. У 1959 г., напрыклад, сярэдні ўраджай збожжавых склаў толькі 6,8 цэнтнэра з гэктару, бульбы — 66, цукровых буракоў — 124. Лёнавалакна было сабрана навет менш, чым у 1958 годзе». Цікава, як Мазураў думае выканаць сямігадовы плян па вытворчасьці збожжа ўжо ў 1963 годзе, павялічыўшы збор з гэктару да 14—15 цэнтнэраў? Магчыма гэтым шляхам, як гаворыць ён: «скарачэньнем прысядзібных участкаў калгасьнікаў да нормы, устаноўленай для сельскага рабочага»? Праўда, гэтыя ўчасткі калгасьнікаў лепш угноеныя, а таму могуць даць больш збожжа. Аднак гэтым цяжка надтачыць агульную вытворчасьць збожжа; можна толькі яшчэ ў большую галечу піхнуць калгасьнікаў. Што датычыцца калгасных палёў, дык, як прызнае Мазураў, «у рэспубліцы практычна вельмі мала зроблена па паляпшэньню выкарыстаньня зямель, якія знаходзяцца ў сельскагаспадарчым абароце, па ачышчэньню іх ад хмызьняку й каменьня. Дрэнна асвойваюцца мэльяраваныя землі і ў недастатковых разьмерах праводзяцца мэльярацыйныя работы як на забалочаных, так і мінэральных пераўвільготненых глебах».

Ёсьць яшчэ адзін шлях да павышэньня вытворчасьці прадуктаў земляробства — гэта перавод усіх калгасаў у саўгасы, што й робіцца ў БССР. Аднак і тут толькі адны затраты. Папершае. у саўгасы шмат грошай мусіць укладаць дзяржава, каб перш паставіць іх на ногі. Падругое, зь іх атрымоўваецца яшчэ горшая карысьць, чым з калгасаў. Як падае Мазураў, «саўгасы Берасьцейскай і Гарадзенскай вобласьцяў у 1959 годзе на сто гэктараў зямлі атрымалі мяса, а саўгасы Магілёўскай вобласьці —мяса й малака менш, чым калгасы гэтых вобласьцяў». Наагул, «толькі 49 саўгасаў Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР закончылі гаспадарчы (1959) год з прыбыткам, астальныя 189 працавалі нерэнтабельна. Агульная сума стратаў усіх саўгасаў складае . . . 160 млн. рублёў».

Далей К. Мазураў скардзіцца, што дрэнна разьвязваецца кватэрная праблема ў рэспубліцы, дрэнна выглядае бытавое абслугоўваньне насельніцтва. У пагоні за нормай выпрацоўкі й лікавымі паказчыкамі «многа нядобраякаснай прадукцыі выпускае лёгкая, харчавая й мясцовая прамысловасьць». «Вялікая колькасьць скаргаў паступае ад насельніцтва на нізкую якасьць швэйных вырабаў, абутку, мэблі, гадзіньнікаў, радыяпрыёмнікаў, тэлевізараў і іншых тавараў народнага спажываньня». Гэта — не малаважная праблема, калі ўлічыць той нацiск, які робіцца на грамадзтва з боку партыі. Сельскія мясцовасьці наагул часамі ня ў сілах дастаць гэтыя прадукты. Яны туды не даходзяць. Апрача гэтага ўсюды існуе ўзятніцтва, савецкі «блат», які навет апанаваў вышэйшыя навучальныя ўстановы й навет Акадэмію навук БССР.

Як вынікае з дакладу К. Мазурава, зьдзірствам у першую чаргу займаюцца партыйныя работнікі, якія й так пастаўленыя ў лепшыя ўмовы, чымся звычайны работнік ці калгасьнік. Напрыклад, ён расказвае пра паводзіны старшыняў калгасаў наступныя немалаважныя гісторыі. У калгас імя Суворава Ашмянскага раёну быў накіраваны на становішча старшыні нейкі Зяневіч. Ён і пачаў гаспадарыць па свайму ўзгляду. Каб не адстаць у продажы малака дзяржаве, Зяневіч арганізуе абмен збожжа на масла ў калгасьнікаў. На калгаснай птушкафэрме было толькі 75 курэй, а каб выканаць плян продажы яек, ён устанаўлівае зборы яек з кажнага двара калгасьнікаў. Апрача гэтага ён, як сабе, так і сваім падначаленым устанаўляе высокую дадатковую аплату. На калгасныя сяродкі ў сваім раённым цэнтры, дзе заставалася жыць сямья, ён пачынае будаваць свой уласны дом. Як сьцьвярджае Мазураў, пры праверцы выявілася, што й «некаторыя іншыя старшыні калгасаў бралі прыклад зь Зяневіча».

У калгас імя Дзяржынскага Віцебскай вобласьці на пасаду старшыні ў 1954 годзе быў накіраваны нейкі Чэрнікаў, які дагэтуль працаваў дырэктарам рэстарану ў Воршы. Ён ня толькі што не падняў калгаснае гаспадаркі, але прывёў яе яшчэ да горшага становішча. Як гаворыць Мазураў, «тав. Чэрнікаў больш клапоціцца аб асабістым дабрабыце. У калгасе ёсьць ня больш чым 300 галоў птушкі, тады як у васабістай гаспадарцы старшыні яе налічваецца звыш 150. Чэрнікаў пабудаваў уласны дом, на што выкарыстаў працу калгасьнікаў і калгасны транспарт».

Пра такіх старшыняў-паноў беларускі савецкі друк паведамляў ужо шмат разоў, даючы яшчэ больш рэвэляцыйныя факты. Пра гэта ў свой час таксама пісалася й у «Бацькаўшчыне». Цяпер-жа на становішчы старшыняў калгасаў і саўгасаў вызначаюцца толькі партыйцы, якія камплектуюцца з адстаўных сакратароў райкомаў і гаркомаў і г. д. ці, як падаецца афіцыйна — накіроўваюцца туды ў выніку скарачэньня партыйнага й савецкага апарату. На гэтае становішча трапляюць таксама зьмешчаныя з сваіх ранейшых становішчаў партыйцы. Гэтак у цяперашні час з 3 018 старшыняў калгасаў 2 968 чалавек партыйцаў. Прыняты таксама захады для замены астальных 50 чалавек непартыйных таксама партыйцамі. З гэтых партыйцаў старшынямі калгасаў працуе цяпер 155 былых сакратароў райкомаў партыі й старшынь райвыканкомаў.

Але ня толькі гэтыя старшыні калгасаў і саўгасаў займаюцца зьдзірствам і собскай нажывай. Гэтым займаюцца таксама й іншыя партыйцы, што займаюць іншыя становішчы. Гэтак, прыкладам, першы сакратар Лоеўскага райкому КПБ Лапіцкі, як паведамляе Мазураў, «нецярпіма адносіўся да ўсялякіх крытычных заўвагаў у свой адрас. Варта было каму-небудзь з работнікаў або навет з сяброў бюро райкому партыі ўказаць сакратару на няправільныя дзеяньні, як ён ставіў пытаньне аб вызваленьні такіх людзей ад работы». Мазураў гаворыць таксама, што нярэдка на кіруючыя становішчы й матар'яльна адказныя пасады падбіраюцца работнікі па прыяцельскіх матывах. Гэтак старшыня Белкаапсаюзу Абраменка работу па падбору кадраў перадаверыў аддзелу кадраў. Карыстаючыся бястурботнасьцю кіраўнікоў, у сыстэму спажывецкай каапэрацыі «прабралася многа нясумленных людзей, якія раскрадаюць каапэратыўныя сяродкі. У 1959 годзе ўстаноўлена растрат і пакраж на 9,4 млн. рублёў».

У той час да патрэбаў насельніцтва партыя адносіцца абыякава. К. Мазураў прыводзіць адзін із прыкладаў гэтых дачыненьняў. Прыводзім гэтую вытрымку поўнасьцяй. «Грамадзянін Галубец Е. І., — паведамляе Мазураў, — у пачатку 1958 году зьвярнуўся ў Магілеўскі гарсавет з просьбай адрамантаваць кватэру. 24 сакавіка 1958 году ён атрымаў адказ, што просьба ў бліжэйшы час будзе задаволена. Але ніхто й ня зьбіраўся рамантаваць кватэраў. Гэта была проста адпіска. Праз некаторы час грамадзянін Галубец зьвярнуўся ў аблвыканком. На яго скарзе 30 чэрвеня 1959 году заступнік старшыні аблвыканкому тав. Зінін напісаў старшыні гарсавету: «Тав. Краўчанка. Прашу прыняць неабходныя меры, справа вельмі зацягнулася». Краўчанка пераадрасаваў гэтае даручэньне загадчыку гаркамгасу Барадзіну з прыпіскай: «Неадкладна абсьледуйце кватэру. Тэрмін да 5 ліпеня». Барадзін 7 ліпеня напісаў рэзалюцыю інспэктару Сьмірнову: «Тэрмінова праверце й далажыце». Відаць, пасьля праверкі, 29 жніўня Барадзін напісаў рэзалюцыю галоўнаму інжынеру гаркамунгасу: «Т. Пархоменка, прашу, вывучыце й вырашыце гэтае пытаньне па сутнасьці». Пархоменка пратрымаў у сябе заяву месяц, затым напісаў тэхніку Дзярноўскаму: «Асабіста прагледзьце».

Няведама, ці была адрамантавана кватэра грамадзяніна Галубца, але прыклад партыйнага бюракратызму відавочны.

Такім чынам паўстае пытаньне, чымжа розьняцца гэтыя паведамленьні першага сакратара ЦК КП БССР К. Мазурава ад калгаснага жыцьця, апісанага ў «Дабрасельцах» Кулакоўскага?. На матар'ялах з дакладу Мазурава можна было-б напісаць шмат іншых антыпартыйных аповесьцяў, але за гэта ўсе кулакоўскія былі-б сувора пакараныя. Трэба йсьці «ў нагу з савецкім жыцьцём», расхвальваць злоўжываньні партыі, тады можна навет спадзявацца й на «Ленінскую прэмію». Ці не пра гэта гаворыць прысуджэньне Ленінскай прэміі за 1960 год спадарожнікам Хрушчова ў Амэрыку й аўтарам «выдатнага твору» — «Твар да твару з Амэрыкай»?

**П. Залужны**

# Змаганьне за адсталыя краіны

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

Але пару дзён пазьней у Нью Дэлі была здэмантаваная вестка аб новых савецкіх крэдытах для Індыі й было высьнена, што падпісанае цяпер Хрушчовам новае пагадненьне датычыла ня новых крэдытаў, але толькі спосабу выкарыстаньня крэдытаў старых прызнаных у траўні 1959 году.

Дасюлешнія савецкія крэдыты для Інданэзіі выносілі 118 мільёнаў даляраў, тады калі Амэрыка за гэты час дала Інданэзіі эканамічную помач на суму 470 мільёнаў даляраў, а так-жа невялікія сумы для Бурмы й Афганістану.

Ужо з гэтых канкрэтных прыкладаў, што Амэрыка дае недаразьвітым краінам шмат большую, чымся Савецкі Саюз, эканамічную помач, хаця гэтае свае помачы ня рэклямуе й ня ўздымае вакол яе прапагандовага шуму. Як ведама, у бюджэце Амэрыкі кажны год фігуруе асобная рубрыка крэдытаў «замежнае помачы», зь якой у вялікім маштабе карыстаюцца ўсе адсталыя й недаразьвітыя з эканамічнага гледзішча краіны сьвету.

Ня гледзячы на ўсе свае запэўніваньні аб бязьмежнай прыязьні да народаў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі й бескарысьлівасьці ахвяроўванай ім помачы, Хрушчоў падчас свайго падарожжа не дасягнуў таго, чаго перад гэтым спадзяваўся. Прыняцьце Хрушчова ўва ўсіх наведаных ім краінах было зьдзержанае й навет халоднае. Прыкладам у Індыі віталі Хрушчова каля 200-300 тысячаў насельніцтва, тады калі перад чатырма гадамі ўдзел насельніцтва ў прывітаньні Булганіна й Хрушчова дасягнуў аднаго мільёна. Але й гэтае дасягненьне ня можа раўняцца із запраўдным трыумфам Айзэнгаўэра, якога два месяцы таму назад віталі зь нябывалым энтузіязмам два мільёны індыйскага насельніцтва.

Не здабыў Хрушчоў падтрыманьня й з боку ўрадавых дзейнікаў наведаных ім краінаў. Гэтак індыйскі парлямант выказаў няскрыванае абурэньне, калі Хрушчоў гаварыў аб перавагах камунізму й выхваляў дабрадзействы манапартыйнай сыстэмы. Ніхто не паверыў, калі Хрушчоў пераконваў, што помач заходніх краінаў зьяўляецца «новым ярмом», а савецкая бескарысьлівым падтрыманьнем незалежнасьці недаразьвітых краінаў. Індыйскі прэм'ер Нэгру пры гэтым ветліва заўважыў, што ён зьяўляецца «адменнага пагляду». У вадказ на пераконваньні Хрушчова аб перавагах камунізму інданэзыйскі прэзыдэнт Сукарно асьветчыў, што ягоная краіна будзе верна прыдзержывацца «інданэзыйскага сацыялізму». Апрача гэтага, Хрушчоў усюды спатыкаўся з глыбокім абурэньнем супраць агрэсыўнай палітыкі камуністычнага Кітаю.

Такім чынам у прыраўнаньні да энтузіястычнага й глыбока прыязнага прыняцьця ў краінах Азіі Айзэнгаўэра прыняцьце Хрушчова выглядала бледным і абыякавым. Ня менш бледным яно выглядае й на фоне прыняцьця амэрыканскага прэзыдэнта ў краінах Лацінскае Амэрыкі, якое асабліва ў Бразыліі й Аргентыне вылілася ў стыхійную азнаку прыязьні й даверу да Задзіночаных Штатаў.

З падарожжаў Айзэнгаўэра й Хрушчова й з акалічнасьцяў, з гэтымі падарожжамі зьвязаных, можна зрабіць цікавыя й пацяшаючыя вывады. Уплывы й аўтарытэт Савецкага Саюзу, а разам зь ім і міжнароднага камунізму, ня гледзячы на вялізарныя натугі апошніх, паступова падаюць. І то падаюць ня толькі ў перадавых краінах Захаду, але і ў вадсталых краінах Азіі, Афрыкі й Паўдзённай Амэрыкі. З другога боку ня менш істотным зьяўляецца бясспрэчны факт, што аўтарытэт і ўплывы Амэрыкі, як кіруючай і мабілізуючай сілы ў вабароне вольнага сьвету перад камунізмам, ня гледзячы навет на многія памылкі амэрыканскай палітыкі, усьцяж растуць і замацоўваюцца.

**Язэп Каранеўскі**

### ШУКАЮЦЬ...

Антановіча Ўладзімера й ягоную жонку Марыю зь вёсак Мосьцішча й Уселюба Наваградзкага павету шукаюць Шафар Галіна й Манюк Людміла. Весткі просіцца слаць на адрас «Б-ны».

# Зь беларускага жыцьця

### БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ Ў НЬЮ ЁРКУ

Пасьля доўгага перапынку хутка маюць быць адноўленыя беларускія нядзельныя радыяперадачы ў Вялікім Нью Ёрку. У гэтай справе сп. Міхась Казьлякоўскі зьвярнуўся да галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, а таксама на агульным гадавым сходзе Аддзелу БАЗА ў Нью-Брансьвіку. Ён абшырна паінфармаваў прысутных аб праробленых стараньнях і іхных выніках дзеля аднаўленьня беларускае радыёвае праграмы.

### «FOR FREEDOM AND INDEPENDENCE OF BYELORUSSIA»

Пад гэткім загалоўкам выйшла невялічкая брашура (40 бачынаў) ў ангельскай мове з нагоды 42-ой гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. У брашуры зьмешчаны тэксты Дэклярацыі Прэзыдэнта Айзэнгаўэра й Злучанай Рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу аб абвешчаньні Тыдня Паняволеных Народаў, 3-цяй Устаўной Граматы БНР аб Абвешчаньні Дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі, праклямацыяў дня 25-га Сакавіка беларускім нацыянальным сьвятам губэрнатарамі цэлага раду штатаў Амэрыкі, у якіх пражывае большая колькасьць Беларусаў. Брашура заканчваецца кароткім інфармацыйным артыкулам аб Беларусі й Беларусах.

### ТАНЦАВАЛЬНАЯ ВЕЧАРЫНА

27 лютага сёлета ў Брукліне адбылася танцавальная вечарына, ладжаная Згуртаваньнем Беларускае Моладзі Амэрыкі. Пад гучную музыку аркестры «Бярозка» былі ўручаныя ўзнагародныя чашы за пяршынство ў пінг-понгу й боўлінгу.

Падчас вечарыны адбылася таксама й мастацкая праграма пад заклікам «Таленты прысутных», у якой прыймала ўдзел дзесяць асобаў. Лепшыя выканальнікі атрымалі ўзнагароды ў форме кружэлкі беларускіх песьняў і народных танцаў, беларускіх кніжак і інш. Да ўдачы вечарыны асабліва спрычыніліся сябры В. Станкевіч, Хв. Хаміцэвіч, Павал Алекса й Аўген Лысюк.

### У НЬЮЁРКАЎСКІХ СПАРТОЎЦАЎ

Хаця ў горадзе Нью Ёрку гэтае зімы амаль зусім ня было сьнегу, аднак для нашае моладзі яна была найлепшай, калі ходзіць пра зімовы спорт. Нашая моладзь езьдзіла чатыры разы ў Кэцкільскія горы на лыжы, не зважаючы на тое, што яны аддаленыя ад Нью Ёрку 230 кілямэтраў. Апрача гэтага, абодвы аддзел ЗБМА Нью Ёрк і Нью Брансьвік супольна езьдзілі на канькі ў прыгожы парк Брукліну — Флешынг Мэдоў.

Нью Ёрскі Аддзел ЗБМА ў лютым сёлета наладзіў турнір за першае месца ў пінг-понгу. Удзел гэтым разам прыймалі, апрача хлопцаў, і дзяўчаты. Пяршынство ўзялі: ад дзяўчат Слава Цэлеш і ад хлопцаў Якуб Шапалюк.

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі цяпер найбольш папулярны від спорту — боўлінг. Гуляюць у яго мужчыны й жанчыны бяз розьніцы веку. Беларуская моладзь зацікавілася гэтым спортам яшчэ ў 1952 годзе, але толькі нядаўна адбыўся першы турнір на чэмпіёнства ЗБМА ў Нью Ёрку. У турніры прыймалі ўдзел В. Мельяновіч, В. Паланевіч, А. Несьцяровіч, М. Заморскі, А. Каваль, В. Лысюк, М. Казьлякоўскі, В. Станкевіч, Б. Яновіч і П. Алексы.

Першае месца здабыў П. Алексы, набіваючы 994 пункты, другое — М. Казьлякоўскі — 981 пунктаў і трэйцяе А. Несьцяровіч — 909 пунктаў.

**Міхась Паляшук**

# Аб адной дыскусіі ў „Полымі“

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

тура МВД-КГБ — гэтак званы «Камітэт за вяртаньне на радзіму», мог-бы атрымаць гэтыя працы, пазнаёміцца зь імі сам ды пазнаёміць іншых сваіх рэдактараў больш сумленным шляхам: выпісаць іх непасрэдна з эміграцыйных выдавецтваў. Такі люксус, аднак, дасьледнікі з «Полымя» дазволяць сабе, хіба, ня хутка.

*

Закрануўшы тут тэму алегорыяў у Коласавай паэме «Сымон Музыка» і спыніўшыся над тым, як зь ёй ня могуць справіцца ў БССР, прыгадаем коратка нашым чытачом, як расшыфроўвае захаваную ў паэме сымболіку вольная беларуская літаратурная крытыка. Базуемся на працах Антона Адамовіча.

Як ведама, галоўнымі вобразамі паэмы зьяўляюцца Сымон і Ганна. Выдатны літаратурны крытык, дацэнт гісторыі беларускай літаратуры ў Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце Адам Бабарэка, які загінуў пазьней у бальшавіцкім зьняволеньні, быў першым, які даў правільнае расшыфраваньне гэтых алегарычных вобразаў-пэрсанажаў паэмы. Галоўнага героя паэмы — «Сымона Музыку» ён расшыфраваў, як «вобраз беларускага паэта-адраджэнца», а вобраз дзяўчыны Ганны — як «сымбалічны вобраз Маладой (нацыянальнай) Беларусі». Паміж гэтымі двума вобразамі-пэрсанажамі праходзіць лінія каханьня, якая сымбалізуе любоў паэта да роднага краю, ягоныя перажываньні й цярпеньні за лёс свае Бацькаўшчыны.

У паэме праводзіцца алегарычнае асэнсаваньне гістарычнага працэсу рэвалюцыі 1917-га году на Беларусі. Таму зусім натуральна, што ў канцы паэмы Якуб Колас уводзіць трэйці алегарычны вобраз — Дамініка, які гвалтоўна ўрываецца ў дачыненьні Сымона з Ганнай, гэта значыць беларускіх паэтаў-адраджэнцаў з маладой нацыянальнай Беларусяй. У вобразе Дамініка ня цяжка распазнаць бальшавіка, які, учыніўшы гвалт над Ганнай — нацыянальнай Беларусяй — прыводзіць яе ў цяжкі, сьмерцяпадобны стан.

На гэтым Якуб Колас канчае паэму ў першай рэдакцыі, падаўшы толькі надзею на зварот «лёсу другога» ў выніку паўстаньня народнай стыхіі, паказанай у вобразе грознай «пушчы». Аднак, пад уражаньнем нацыянальнага ўздыму ў БССР у пачатку 20-ых гадоў — у часы славутае «нацдэмаўшчыны» — Якуб Колас адпаведна перарэдагоўвае канец паэмы, і ў выданьні 1925-га году дае ёй іншую разьвязку. Ганна — алегарызаваны вобраз маладой-нацыянальнай Беларусі — пасьля замаху на яе Дамініка (алегарычнага вобразу бальшавізму) стаецца псыхічна ненармальнай, але прыбылы да яе Сымон — «паэт адраджэнец» гукамі свае музыкі вяртае яе да розуму.

Прысьвячаючы паэму ў новай рэдакцыі беларускай моладзі, Якуб Колас гэтым самым ставіць перад ёй заданьне ажыцьцявіць «мараль» ягонай «Казкі жыцьця» — абудзіць да розуму, да жыцьця шакаваную бальшавізмам нацыянальную Беларусь.

*

Такая ацэна свабоднай беларускай літаратурнай крытыкай алегарычнага зьместу паэмы «Сымон Музыка» — гэтага найвыдатнейшага твору Якуба Коласа, напісанага яшчэ духова вольным паэтам, хоць свае думкі і пачуцьці ён быў ужо змушаны старанна замаскоўваць ад узрастаючай бальшавіцкай цэнзуры. Няма нічога дзіўнага, што казённая крытыка ў БССР і да сяньняшняга дня ніяк ня можа стравіць зьместу гэтай запаветнай Коласавай «Казкі жыцьця».

**А. З.**

### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).





Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ